ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год. XXIX, № 277 New York, May — Травень — 1980 Vol. XXIX, № 277

# ФРАНЬЦІШАК БАГУШЭВІЧ

## НА 140-Я ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Й 80-Я ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ



22 сакавіка сёлета споўніліся 140-ыя ўгодкі ад нараджэньня, а 28 красавіка ад сьмерці Францішка Багушэвіча. На нашае зьдзіўленьне (дарэчы ў Савецкім Саюзе, як правіла, ўгодкі сьмерці не адзначаюцца наагул), Багушэвічавы ўгодкі ад ягонага нараджэньня фактычна нічым ня былі адзначаныя. Праўда, у нумары 12-ым газэты „Літаратура і Мастацтва" за 21 сакавіка сёлета быў надрукаваны на перадапошняй бачыне невялікі артыкул Уладзімера Содаля пад загалоўкам „Сымон Рэўка спад Барысава", у якім аўтар засяроджваецца адно над Багушэвічавым псэўдонімам „Сымон Рэўка", пад якім быў зьявіўшыся другі ягоны зборнік „Смык беларускі". І зусім неўпапад пад загалоўкам у згаданым нумары газэты „Літаратура і Мастацтва" быў прычэплены падзагаловак „Да 140-годзьдзя з дня нараджэньня Францішка Багушэвіча", хоць артыкул гэны зусім ня меў угодкавага характару.

Думалася, што 140-ыя ўгодкі ад нараджэньня выдатнага беларускага паэты будуць адзначаныя ў таўстых беларускіх часапісах „Полымя" й „Маладосьць" за красавік сёлета. І вось атрымліваем нумары гэтых часапісаў і аказваецца, што ў васноўным яны прысьвечаныя 110-ым, гэта значыць, таксама круглым угодкам ленінскім, што споўніліся 22 красавіка сёлета. Але гэта ані ня перашкаджала належна адзначыць і Багушэвічавых угодкаў, бо ў згаданых нумарох „Полымя" й „Маладосьці" было надрукавана ладне й зусім палітычна нэўтральнага матарыялу. Інакш кажучы, месца для Багушэвічавых угодкаў лёгка было выкраіць.

Таксама ня былі зладжаныя на Багушэвічавы ўгодкі ніякія сьвяткаваньні й літаратурныя вечары, хаця, як даведваемся з газэты „Літаратура і Мастацтва" за 7 сакавіка сёлета, у Доме літаратара ў Менску адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны 120-годзьдзю з дня нараджэньня А. Чэхава. Хоць у гэтай зацемцы Чэхаў названы „вялікім рускім пісьменьнікам", аднак ягоная роля навет у расейскай літаратуры анічуць ня большая, ня кажучы ўжо пра літаратуру беларускую, чымся ўзапраўды эпахіяльная роля ў ёй Францішка Багушэвіча. Дык у выснове з дасюлешніх нашых развааньняў можна сьмела цьвердзіць, што сёлета 140-ыя ўгодкі ад нараджэньня Францішка Багушэвіча зусім ня былі адзначаныя.

Мала лепш або й зусім ня лепш былі адзначаныя й 125-ыя ўгодкі й 130-ыя ўгодкі ад нараджэньня Францішка Багушэвіча. Гэтак у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 23 сакавіка 1965 году была адведзеная цэлая вялікая бачына (тады газэта „Літаратура і Мастацтва" выходзіла падвойным, раўнуючы да сяньняшняга, фарматам, два разы ў тыдзень) былі зьмешчаныя ўгодкавыя Багушэвічавы матарыялы пад агульным загалоўкам „Каб маё слова ды людцаў зьяднала" з фатаграфіяй аўтара „Дудкі беларускай". Але гэта быў адзін з дабрадзейных гадоў г. зв. дэсталінізацыі, калі пра Багушэвіча было дазволена пісаць усю праўду. Затое ўжо на 130-ыя ягоныя ўгодкі ў 1970 годзе ад ягонага нараджэньня, у часе г. зв. дэсталінізацыі зазначыўся выразны адыход партыі ад дэсталінізацыйнай палітыкі. Дык у гэным 1970 годзе зьявіўся адно ў „Літаратуры і Мастацтве" ўгодкавы артыкул ведамага беларускага патрыёта татарскага паходжаньня Сьцяпана Аляксандровіча з падзагалоўкам „Да 130-годзьдзя з дня нараджэньня Францішка Багушэвіча, у часапісе „Маладосьць" кароценькі, усяго на адну бачыньку, артыкул Уладзімера Казьбярука, а ў часапісе „Полымя" ў гэным 1970 годзе пра Багушэвічавы ўгодкі ня было ніводнага слова.

Але йдзём далей. У 2-ім томе „Гісторыі Беларускай Дакастрычніцкай Літаратуры" 1969 году выданьня аўтар разьдзелу пра Францішка Багушэвіча Уладзімер Казьбярук дае гэткую ацэну Францішку Багушэвічу й ягонай творчасьці: „Прадмовы да зборнікаў „Дудка беларуская" й „Смык беларускі" — гэта праграмныя дакумэнты, якія па свайму патрыятычнаму пафасу нагадваюць прадмовы й пасьляслоўі Скарыны. Заклік Багушэвіча шанаваць родную мову, яго барацьба за абуджэньне ў народзе нацыянальнай самасьвядомасьці — ня што іншае, як адраджэньне ў новых умовах і ў новай форме вызваленчых ідэй „Мужыцкай праўды".

„Прадмовы Скарыны й Багушэвіча, арыткулы Каліноўскага — маякі на доўгім, шматпакутным і цярністым шляху беларускага народу да ўсьведамленьня гістарычнай справядлівасьці й нацыянальнай годнасьці".

А колькі бачынаў далей Уладзімэр Казьбярук да сказанага ўжо ім дадае й гэткае: „Ф. Багушэвіч — першы сапраўды нацыянальны беларускі паэт. Тэму барацьбы за нацыянальную самабытнасьць, вызначаную яшчэ ў прадмове да „Дудкі беларускай", ён працягвае і распрацоўвае ў сваёй паэтычнай творчасьці". Вось-жа на гэткім высокім нацыянальным узроўні ні перад гэтым, ні пазьней ды й сяньня не асэнсоўваецца творчасьць Францішка Багушэвіча й хіба-ж не таму, што ня хочуць гэтага беларускія пісьменьнікі, у тым ліку й рэдактары „Полымя" й „Маладосьці" сёлетняга году Кастусь Кірэенка й Васіль Зуёнак, а вылучна таму, што не жадае гэтага партыя.

Дык кім-жа быў для нас Францішак Багушэвіч і ягоная творчасьць? Паводля ролі й значаньня ў гісторыі Беларусі другой палавіны XIX стагодзьдзя Францішак Багушэвіч можа быць пастаўлены побач з Кастусём Каліноўскім, хоць дзейнасьць іхная шмат у чым насіла розны й адменны характар. Тое, што рабіў Каліноўскі збройным змаганьнем і палымяным словам „Мужыцкай праўды", Францішак Багушэвіч, таксама ўдзельнік паўстаньня Каліноўскага, працягваў і замацоўваў у народзе сваёй паэтычнай творчасьцяй, якая у навейшай гісторыі Беларусі адыграла эпахіяльную ролю. Багушэвічава літаратурная творчасьць вызначыла ідэйны кірунак беларускага нацыянальнага адраджэнскага руху ягонага часу. Больш таго, Багушэвічава літаратурная спадчына запладняла дзейнасьць беларускіх адраджэнцаў пачатку бягучага стагодзьдзя ды паказвала ідэйны шлях наступным пакаленьням.

Да Францішка Багушэвіча фактычна яшчэ ня было наскрозь народнай і нацыянальнай беларускай літаратуры, у якой маглі-б адбіцца ўва ўсёй паўніні й шырыні нацыянальныя й сацыяльныя ідэі беларускага народу, а была літаратура, пісаная беларускай мовай, што падрыхтавала глебу для выступленьня Францішка Багушэвіча. Да Багушэвіча былі пераважна творы пра беларускага селяніна, да якога прамаўлялі, хоць і ягонай роднай мовай ды аднакроўныя зь ім нацыянальным паходжаньнем, усё-ж ідэйна чужыя гэтаму селяніну людзі. Затое Багушэвічавы творы былі ўжо голасам як-быццам самога народу, у якіх на ўсю моц прагучалі народная крыўда, народныя думкі, народныя імкненьні.

Багушэвіч першы ў беларускай літаратуры выступіў у вабароне людзкое годнасьці беларускага селяніна, на ўвесь голас запатрабаваў супраць ягонае крыўды. Ён першы паставіў пытаньне ня толькі сацыяльнага вызваленьня й духовага разьняволеньня беларускага народу, але й ягонага адраджэньня нацыянальнага, як раўнавартаснае нацыі ў сям'і іншых народаў. Гістарычная роля Францішка Багушэвіча перш-наперш у тым, што на ягоную долю выпала стацца першым узапраўды народным і нацыянальным паэтам і духовым праваднікам народу да таго часу, пакуль ня пераняў ад яго ў спадчыне гэтае ролі Янка Купала.

Бадайшто найважнейшым Багу-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# БАГАСЛАВЕНСТВА СЬВЯТОГА АЙЦА

22 сакавіка сёлета ў часе аўдыенцыі ў Папы Яна Паўла Другога Біскуп Часлаў Сіповіч — Апостальскі Візытатар для Беларусаў пры нагодзе дарычыў Сьвятому Айцу № 270 газэты „Беларус" за кастрычнік 1979 году, каб Сьвяты Айцец мог пазнаёміцца із зьмешчаным там артыкулам „Папа Ян Павал Другі ў Амэрыцы" аўтарства Сп-ні Зінаіды Станкевіч. Біскуп Сіповіч паінфармаваў таксама Папу й пра тое, што яна Беларуска праваслаўнага веравызнаньня.

У вадказ Сьвяты Айцец пераслаў Свае прывітаньні, падзяку ды Багаславенства Сп-ні З. Станкевіч, а таксама й дзьве памяткі: адну — фатаграфію Папы з подпісам: Joannes Paulus P. P. II — у лацінскай мове, а на адвароце друкам паітальянску, ды абразок-рэпрадукцыю з абраза С. Майнардзі з Ватыканскай Пінакатэкі на тэму Нараджэньня Хрыста, на якім: Дзева Марыя, Сьвяты Язэп і Нованароджаны Хрыстос — Дзіцё, на адвароце слоган з адарацыяй Сьвятой Сям'і, подпіс Сьвятога Айца й дата.

Папа Ян Павал Другі разумее шмат розных моваў, у тым ліку й беларускую й вітае таксама й у беларускай мове ў часе сваіх штагадовых Каляндных ды Вялікодных прывітаньняў нас Беларусаў побач зь іншымі народамі сьвету. Відавочна, артыкул пра свой побыт у Амэрыцы (Нью Ёрку) Папа прачытаў. Таксама хіба прачытаў, калі ня ўсё, дык хоць частку зьместу газэты. А зьмест той быў на ўзроўні: разнастайны й інфармацыйны. (Прыпомнім: справаздача з XVIII Кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, справаздача із Зьезду Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, пра 450-годзьдзе Першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага, пра русыфікацыю школьніцтва ў падсавецкай Беларусі, пра старажытную грэцкую кля́сыку ды добрыя артыкулы зь беларускага грамадзкага жыцьця).

З прыемнасьцяй адзначаем, што Багаславенства Сьвятога Айца прыносіць гонар ня толькі нашай супрацоўніцы сп-ні Зінаідзе Станкевіч, але й газэце „Беларус".

# НОВЫ КІРАЎНІК МІСІІ БССР У ЗН

На дадзеным этапе напружаньня паміж Захадам і Ўсходам Масква робіць, відаць, адпаведныя зьмены й у дыпляматычным складзе сваіх сукрайных рэспублікаў. Гэтак, у прадстаўніцтве БССР у Задзіночаных Нацыях адбылася ў красавіку сёлета зьмена: месца дасюлешняга кіраўніка місіі Беларуса Леаніда Даўгучыца заняў Расеец Анатоль Шэльдаў.

Леанід Даўгучыц на сваім становішчы кіраўніка беларускае місіі ў ЗН прабыў нядоўга, ад 1977 году. Ачоліўшы беларускую місію ў Нью Ёрку, Даўгучыц меў жаданьне ня толькі браць удзел у галасаваньнях, але й інфармаваць вонкавы сьвет шырэй пра Беларусь. Цяжка сказаць, наколькі яму гэта ўдалося.

Цяпер пры пагоршаных амэрыканска-савецкіх дачыненьнях, у місіі БССР, відаць, спатрэбіўся кіраўнік з адпаведнай біяграфіяй і наструўленьнем. Масква знайшла гэткага ў васобе Анатоля Шэльдава, які дагэтуль займаў становішча заступніка міністра замежных справаў БССР, на якім быў ад 1966 году. Шэльдаў, ураджэнец Маскоўскай вобласьці, быў прысланы ў Менск у міністэрства замежных справаў БССР у годзе сьмерці Сталіна, 1953-ім, калі ён скончыў маскоўскі Дзяржаўны Інстытут Замежных Дачыненьняў. Ад 1959 па 1963 год ён быў першым сакратаром сталае місіі СССР у жэнэўскім бюры Задзіночаных Нацыяў ды ў іншых міжнародных арганізацыях у Жэнэве.

### ДЗЕЙНАСЬЦЬ БАЗА Ў ВАШЫНГТОНЕ

Сп-чна Алеся Кіпель, старшыня Вашынгтонскага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, мела 26 сакавіка сустрэчу з кангрэсмэнам Дантэ Фасэлам, старшынём кангрэсавае Камісіі да справаў Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе. Камісія праводзіць цяпер рыхтаваньні й збор матарыялу да Мадрыдскае канфэрэнцыі дзяржаваў-удзельніцаў Гэльсінкаўскага пагадненьня. Сп-чна Кіпель паінфармавала кангрэсмэна Фасэла пра выпадкі парушэньня людзкіх і нацыянальных правоў на Беларусі.

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў СЫДНЭІ

Сёлета гэтак выпала, што ў вадзін і той самы дзень сыднэйскія Беларусы адзначалі разам тры сьвяты: другі дзень Вялікадня, Дабравешчаньне Сьвятой Багародзіцы й Дзень Незалежнасьці Беларусі. Хіба дзякуючы гэтаму, у залі Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Файрфілд сабралася шмат Беларусаў.

Сьвяткавальную акадэмію адчыніў сп. М. Лужынскі, прывітаўшы прысутных традыцыйным „Хрыстос Уваскрос!" Сп. А. Качан, пачынаючы ўгодкавы рэфэрат, паведаміў аб цяжкіх абставінах, у якіх сяньня знаходзіцца беларускі іншадумец Міхал Кукабака. На сталох былі раскладзеныя лістоўкі із заклікам дапамогі Міхалу Кукабаку. Кажнаму з прысутных была дадзеная магчымасьць выканаць свой доўг сумленьня й працягнуць руку дапамогі выдатнаму беларускаму патрыёту й вязьню за нацыянальную справу.

Зь істужкі Радыя „Свабода" былі адыграныя выдатны мантаж — мастацкая дэкламацыя вершу Янкі Купалы „Паўстань з народу нашага".

У сваім рэфэраце на тэму дня сп. Аркадзь Качан коратка спыніўся на ўгодкавых падзеях ды перайшоў да аналізу нядаўна атрыманай брашуры „Ліст Расейскаму Прыяцелю", цытуючы даўжэйшыя ўрыўкі з гэтай вельмі цікавай працы ананімнага беларускага патрыёта. Аўтар рэфэрату стараўся паказаць, што матыў гэтага „Ліста" зьяўляецца прадаўжэньнем сакавіковых ідэялаў незалежнасьці, якія, не зважаючы на жорсткія перасьледаваньні ў БССР, у васаблівасьці беларускай мовы, не памерлі. Патрыятызм у народзе ня згас, довадам чаго гэты „Ліст".

У мастацкай частцы сьвяточнай праграмы сп. Янка Макарэвіч прачытаў свае собскія вершы: адзін пра няўміручасьць Сакавіковага Чыну, другі — „Сьцяг над Нёманам" — патрыятычны зварот да дзяцей, якія ў будучыні павінны стацца носьбітамі ідэялаў незалежнасьці.

Ніна й Алесь Зуі прадэклямавалі два вершы: „Вясна ўжо на сьвеце" й „Хрыстос Уваскрос". Старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Аўстраліі д-р Язэп Малецкі паінфармаваў аб сваім нядаўным наведаньні Мэльбурну й Адэляйды, дзе ён прачытаў два рэфэраты. Ён таксама паінфармаваў пра жыцьцё й дзейнасьць беларускіх асяродзьдзяў у гэтых мясцовасьцях, а таксама заклікаў бараніць нацыянальныя інтарэсы Беларусаў ў Аўстраліі.

Сп. Л. Дзядуля падзякаваў усім вернікам, якія ў той дзень наведалі царкву ў Гомбуш, у якой а. Міхал адслужыў адмысловы Малебен за беларускі народ.

Сп. М. Зуй прачытаў прывітальныя лісты ад: Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, ад Беларускага Вызвольнага Фронту ды ад прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады. Сп. М. Лужынскі пазнаёміў із зьместам вельмі шчырага прывітаньня ад Беларускага Аб'яднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі.

Афіцыйная частка сьвяткаваньня закончылася агульным прапяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Падчас багатага й вельмі смачнага пачастунку, падрыхтаванага Беларускім Жаноцкім Камітэтам на чале із сп-няй Н. Лужынскай, былі паднятыя тосты за волю Беларусі й яе шматпакутны народ.

**Аркадзь Качан**

**Рэдакцыя часапісу „Беларуская Моладзь" дастала ліст ад Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША з падзякай за інфармацыю пра М. Кукабаку ды з запэўненьнем, што ўрад Амэрыкі зробіць усё магчымае, каб дапамагчы вязьням сумленьня ў Савецкім Саюзе.**

**Зразумела, патрэбныя далейшыя стараньні з боку беларускае грамады ў Вольным Сьвеце.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Белараў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРА БЕЛАРУСЬ У КАНГРЭСЕ ЗША

У папярэднім нумары нашае газэты былі названыя прозьвішчы 15-ёх кангрэсмэнаў і сэнатара Доўла, якія выступілі сёлета з заявамі ў Кангрэсе з нагоды 62-іх угодкаў Незалежнасьці Беларусі. Да ліку названых дадаём тут яшчэ прозьвішча сэнатара Ўільяма Брадлі ад штату Нью Джэрзі. Усіх выступленьняў, сёлета было, такім парадкам, 17.

Сёлетнія выступленьні яшчэ раз навочна паказваюць, што зьмест іхны ў вялікай меры залежыць ад тае інфармацыі й просьбаў, зь якімі зварачаюцца да сваіх кангрэсавых прадстаўнікоў беларускія арганізацыі й паасобныя выбаршчыкі. Сёлета, прыкладам, вялікі сьлед пакінулі па сабе разасланыя галоўнаю ўправаю БАЗА прэсавыя камунікаты з залучанай да іх паштоўкай (выдавецтва газэты „Беларус") у вабарону Міхала Кукабакі. Пяцёх прадстаўнікоў у Кангрэсе выступілі ў вабарону М. Кукабакі з заклікамі да падтрыманьня гэтага мужнага чалавека ў ягоным змаганьні за грамадзянскія правы ў Савецкім Саюзе й нацыянальныя правы Беларусаў.

Яшчэ шырэй была выкарыстаная ў выступленьнях у Кангрэсе сёлетняя рэзалюцыя прынятая на сьвяткаваньні ў Нью Ёрку (тэкст ейны гл. у папярэднім нумары „Беларуса"), якая была загадзя разасланая разам зь іншымі матарыяламі.

Дарэчы, інфармацыю пра сёлетнія выступленьні ў Кангрэсе з нагоды Дня Незалежнасьці Беларусі падаў таксама бюлетэнь кангрэсавае Камісіі да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе (у выпуску за 25 красавіка 1980 году).

Заявы сёлета ў Кангрэсе ,як і папярэднімі гадамі, зрабілі прадстаўнікі тых штатаў, дзе дзеюць беларускія арганізацыі (маглі-б быць, праўдападобна, і зь іншых штатаў, калі-б выбаршчыкі-Беларусы там былі крыху актыўнейшыя ў трыманьні лучнасьці із сваймі кангрэсавымі прадстаўнікамі): гэта штаты Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Агаё, Іліной, Мічыган і Каліфорнія.

У сёлетніх выступленьнях прыгадваліся ня толькі нармальныя для гэткіх нагодаў гістарычныя факты зь беларускае гісторыі, але й бягучыя падзеі на Беларусі: заціск грамадзянскае свабоды, свабоды рэлігіі, нацыянальнае культуры, палітыка русыфікацыі ды выявы супраціву, факты перасьледу. Шмат хто з кангрэсмэнаў назваў імя беларускага іншадумца Міхала Кукабакі, як прыклад змаганьня, што заслугоўвае на падтрыманьне, як справа агульнага значаньня.

Колькі кангрэсмэнаў цытавалі або пераказвалі, а кангрэсмэнка Мэры Роўз Оўкэр із штату Агаё поўнасьцяй зьмясьціла рэзалюцыю, прынятую ў Нью Ёрку ў справе „Голасу Амэрыкі" й беларускае мовы. Было выказанае моцнае падтрыманьне даманьня беларуска-амэрыканскае грамады, каб беларуская мова была ўлучаная ў праграмы „Голасу".

У гэтым кірунку трэба дзеіць далей зь непаслабнай напорнасьцяй, пакуль лёд бюракратызму й расейскіх уплываў ня будзе прабіты ў адміністрацыі гэтае амэрыканскае ўрадавае радыястанцыі.

# РЭХА САКАВІКА Ў АМЭРЫКАНСКІМ ДРУКУ

Найбольшая газэта Нью Ёрку „Дэйлі Ньюз" у двух нумарох за чацьвер 27-га й пятніцу 28-га сакавіка зьмясьціла рэпартаж свайго карэспандэнта Эрыка Капажа пра сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі ў Беларускім Грамадзка-Рэлігійным Цэнтры ў Брукліне. Рэпартаж, што займае ў газэце цэлую бачыну, ілюстраваны трыма фатаграфіямі. У рэпартажы, напісаным на аснове інтэрвю з сакратаром Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва Я. Запруднікам, пададзеная асноўная інфармацыя пра Беларусь, пра гістарычныя падзеі, што прывялі да абвешчаньня незалежнасьці БНР, пра Беларусаў Амэрыкі, беларускіх жыхароў Брукліну ды пра праграму сьвяткаваньня.

У штаце Нью Джэрзі дзьве газэты, у нумарох за 26 сакавіка падалі пра беларускае сьвята Незалежнасьці: „Стар Леджэр" апублікавала здымак Губэрнатара штату Брэндана Бэрна із сп-няй Галінай Русак у мамэнт падпісаньня Губэрнатарам Праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці ды пераданьня яму падарунку ў форме лялькі ў беларускім народным касьцюме (работа сп-ні Юлі Андрусышынай), а газэта „Гоўм Ньюз" зьмясьціла рэпартаж з Трэнтану, сталіцы штату, куды наведалася беларуская дэлегацыя (глядзеце здымак у гэтым нумары газэты). На аснове інтэрвю з удзельнікам дэлегацыі В. Кіпелем газэта падала кароткую інфармацыю пра амэрыканскіх Беларусаў, беларуска-амэрыканскія арганізацыі штату ды пра Беларусь.

# ФРАНЬЦІШАК БАГУШЭВІЧ

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

шэвічавым укладам у справу беларускага нацыянальнага адраджэньня было тое, што ён першы запачаткаваў, абгрунтаваў і сфармуляваў тэзу, што захаваньне народам ягонае роднае мовы раўназначнае із самым існаваньнем народу, як апрычонай нацыі, а згубленьне роднае мовы адназначнае з нацыянальнай сьмерцяй. Багушэвічаў кліч **„Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!"** — падхоплены й разьвіты паэтамі нашаніўцамі, перш-наперш Янкам Купалам, Алесем Гаруном, Алёйзай Пашкевічанкай-Цёткай і іншымі, стаўся галоўным дэвізам нашага нацыянальнага адраджэньня. Кліч гэты ня менш, чымся ў Багушэвічавы й пасьля ў нашаніўскія часы, войстра актуальны й сяньня, калі беларускія паэты й пісьменьнікі ў БССР часта змушаныя выступаць у сваіх творах у вабароне роднае мовы, загрожанае русыфікатарскай палітыкай Камуністычнае партыі.

Творчасьць Францішка Багушэвіча дала штуршок для нацыянальнага ўсьведамленьня народных масаў. Да Багушэвіча нацыянальна сьведамай была адно невялікая частка інтэлігенцыі, пераважна шляхоцкага паходжаньня, бо ізь сялянства, якому шлях да асьветы быў тады зачынены, не магла паўстаць свая інтэлігенцыя. Багушэвічавы зборнікі „Дудка беларуская" й „Смык беларускі" гэтак пашырыліся ў народных масах, што зьмешчаныя ў гэтых зборніках творы хутка сталіся як-быццам народнымі творамі. Творы ніводнага з пазьнейшых паэтаў, улучна з творамі Янкі Купалы й Якуба Коласа, ня сталіся нагэтулькі пашыранымі ў народзе, яму кроўна блізкімі й зразумелымі, як вершы Францішка Багушэвіча. Гэта затым, што Багушэвіч патрапіў прамовіць да селяніна ягоным собскім складам мовы, ягонымі паняцьцямі й уяўленьнямі, умеў у мастацкіх вобразах адкрыць селяніну ягоную собскую душу.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, адраджэнскія ідэі Францішка Багушэвіча траплялі на ўраджайную глебу. Вось гэтая Багушэвічава роля, як першага пашыральніка нацыянальнай сьведамасьці сярод народных масаў — гэта наступная гістарычная заслуга Францішка Багушэвіча.

І, наапошку, Багушэвічава паэзія ў ладнай ступені пабудзіла да літаратурнай дзейнасьці іншых паэтаў ягонае пары, як Альгерд Абуховіч, Адам Гурыновіч, зрабіла моцны ідэйны й мастацкі ўплыў на ўсю беларускую літаратуру канца XIX стагодзьдзя. Апрача гэтага, ягоная творчасьць як у ідэйнай, гэтак і ў літаратурна-мастацкай роўніцы запладняла й творы нашае паэзіі нашаніўскае пары, прынамся ейных першых гадоў.

У часы сталіншчыны Багушэвічава творчасьць, як і наагул нацыянальныя дасягненьні беларускай мінуўшчыны, бадайшто зусім не дасьледвалася й не папулярызавалася. І толькі ў 60-ых гадох пачаўся значны ўзрух у галіне пазнаньня й вывучэньня Багушэвічавае літаратурнае спадчыны. Зьявіліся каштоўныя дасьледваньні Генадзя Кісялёва й Сьцяпана Аляксандровіча ды іншых пра паасобныя мамэнты жыцьця й важнейшыя пытаньні паэтычнай і грамадзкай дзейнасьці Францішка Багушэвіча.

Наагул-жа роля Францішка Багушэвіча нагэтулькі вялікая ў гісторыі нашага нацыянальнага адраджэньня, а ягоная літаратурная спадчына проста вузлавая ў беларускім літаратурным працэсе, што, не зважаючы на ніякія партыйныя перашкоды й забароны, яны будуць усьцяж служыць жывой крыніцай духовае моцы для сучаснага й будучых пакаленьняў.

**Станіслаў Станкевіч**

# НА 60-ЫЯ ЎГОДКІ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

22 сакавіка сёлета споўнілася 60 год ад нараджэньня ў вёсцы Высокі Барок Краснапольскага раёну Магілеўскай вобласьці ў сялянскай сям'і ведамага беларускага савецкага паэты Аляксея Пысіна.

Аляксей Пысін разам зь 10 і навет 15 год малодшымі за яго Уладзімерам Караткевічам, Нілем Гілевічам, Анатолем Вярцінскім, Пятрусём Макалём ды Рыгорам Барадулінам належыць да групы найвыдатнейшых беларускіх савецкіх паэтаў, што ў ідэйна і мастацкай роўніцы надаюць галоўны тон беларускай паэзіі.

І гэта тады, калі найстарэйшая генэрацыя беларускіх паэтаў на чале зь нядаўна памерлым Пятрусём Броўкам ды жывымі й актыўнымі ў паэзіі Максімам Лужанінам, Максімам Танкам, Аляксеем Зарыцкім, Васілём Віткам, Аляксеем Русецкім і іншымі ў сваёй паэтычнай творчасьці ўжо выразна йдуць на спад і больш-менш прыкметнага тону сучаснай беларускай паэзіі не надаюць. Згаданая першая група паэтаў на чале з найстарэйшым зь іх Аляксеем Пысінам надае дый, відаць, будзе надаваць галоўны тон беларускай савецкай паэзіі й далей. І гэта не зважаючы на тое, што Аляксей Пысін, дасягнуўшы свайго 60-цігодзьдзя, ужо таксама павінен быць залічаны да паэтаў старэйшага пакаленьня.

Аляксей Пысін сярод сучасных беларускіх паэтаў займае некаторымі асаблівасьцямі сваёй творчасьці асобнае месца, творачы сваёй паэзіяй цалкам апрычоную зьяву. Зь іншымі беларускімі паэтамі лучыць яго моцна нацыянальны характар творчасьці, хоць паэта гэтага крыкліва ня дэманструе, выяўляючы гэтую асаблівасьць сьціпла й спакойна. Аляксей Пысін, як і наагул паэты пасьлясталінскага пэрыяду, выступае перад чытачом перш-наперш як гарачы беларускі патрыёт, што глыбака адчувае й усьведамляе сваё арганічнае зрадненьне зь беларушчынай, сваю бязьмежную любасьць да свайго роднага.

Ня ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў;
. . . . . . . . . . . .
Адно я знаю: гэткі меч
На сьвеце ня скуецца,
Каб мог ён вузел мой расьсеч,
Не закрануўшы сэрца, —

зьвяртаецца паэта яшчэ ў сваім вершы 1958 году „Вузел". А ў вершы 1964 году „Дала мне маці гэту мову", што для паэты, „як спадчына і запавет", ён дае наказ сваёй дачцы, каб свае роднае мовы, як кажа ён літаральна, „у буднях і сьвяточным днём не пакідала у парозе, калі у нечы ўвойдзе дом".

Найбольшай шчырасьцяй, мяккасьцяй і беспасярэднясьцяй пачуцьцяў вылучаюцца якраз тыя Пысінавы вершы, напісаныя за ўвесь час ягонай творчай дзейнасьці, у якіх ён выказвае гэтую сваю прывязанасьць да роднага краю, ягонай прыроды, сялянскай працы, простых людзей вёскі, любасьць да роднае мовы. Гэта такія вершы, як „Плыты", „Сож", „Ручнікі", „Выносьлівасьць", „Краснапольле", „Адпачынак", „Удзячнасьць", „Баркалабаўскія салаўі", „Магілёўская гаворка", „І чаму ня стаў я лясьніком", „Сумёты ўпоравень са стрэхамі", „Жанчына, маці славатворцы" ды шмат іншых.

Аляксей Пысін ня ўхіляецца ад выказваньня войстрых жыцьцёвых супярэчнасьцяў, што стварыла савецкая рэчаіснасьць. З гэтага гледзішча вельмі цікавы згаданы ўжо верш „Баркалабаўскія салаўі" пра вясковых дзяўчат, якіх вывозяць далёка за сьвет ад роднага краю на цаліну. Дзеля мацнейшага заакцэнтаваньня нацыянальнага калярыту й прывязанасьці гэных дзяўчат да роднае глебы, ад якой іх адрываюць, верш свой паэта пачынае мінорнымі радкамі, удала спарафразаванымі з народнае песьні:

Цячэ быстрая,
Цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай мяне,
Мая мамачка,
За каго я хочу.

Але суровая рэчаіснасьць зрыхтавала дзяўчыне іншую долю:

Ля чорнай кладкі плавала
Гусінае пяро.
Дзяўчыну з Баркалабава
Павезьлі за Дняпро.
Палонам ёй і згубаю
Той род чужы і дом,
Лепш кукаваць зязюляю
Ў матулі пад акном.

Праўда, далей у вершы паэта намагаецца знэўтралізаваць адважна выказаную ім думку, загадваючы дзяўчатам, што едуць на цаліну, заміж роднай „Рэчанькі", сьпяваць песьню „пра Ангару", але дэталь гэтая вычуваецца тут лішняй і няпераконлівай. Верш „Баркалабаўскія салаўі" — гэта бадайшто першы ў нашай паэзіі голас не пра казённую радасьць і энтузіязм моладзі, што едзе ўздымаць цаліну, а горкая праўда пра ейную незайздросную долю.

Ня менш моцны тон надае Пысінавай паэзіі й іншая стыхія — прыпаміны мінулае вайны, шчымліва глыбокае асэнсаваньне ейнае трагэдыі ды спрычыненыя ёю людзкое гора й няшчасьці. Перажытыя паэтам асабіста жахі вайны, як кажа ён у ваднын сваім вершы,

Не балядаю пра час мінулы, —
Нематою, болем ран нямых
Адгукаюцца ў далёкім гуле
Кананады ўсіх франтоў маіх.

З артыкулу маладога крытыка Варлена Бечыка на 60-ыя ўгодкі Аляксея Пысіна, надрукаванага ў 12-ым нумары газэты „Літаратура і Мастацтва" за 21 сакавіка сёлета, нельга ня прывесьці вельмі трапных словаў, якія ставяць на адным узроўні найвыдатнейшага нашага ваеннага паэты Аляксея Пысіна й гэткага-ж найвыдатнейшага пісьменьніка ваеннае тэмы Васіля Быкава ў іхным асэнсаваньні мінулае вайны. Варлен Бечык піша:

„Мне здаецца, што чытаючы вершы Пысіна, я лепш усьведамляю, напрыклад, зьмест і праблематыку прозы Васіля Быкава, як і наадварот: чытаю Васіля Быкава — і яшчэ мацней адчуваю душэўную глыбіню пысінскай лірыкі".

Роздум над самымі рознымі зьявамі грамадзкага й асабістага жыцьця ды над капрысамі людзкое долі — вызначальны матыў Пысінавае лірыкі. Аб'ектам ягоных роздумаў і рэфлексыяў самыя інтымныя перажываньні й настроі. Сярод іх сугучным акордам асабліва ўзвышана гучаць пачуцьці любасьці да роднае маці, да каханай дзяўчыны, тужлівыя прыпаміны паэтавага маленства. Пачуцьці гэтыя паэта глыбака асэнсаваў асабліва ў вершах зборніка 1967 году „Твае далоні", за які была ў наступным — 1968 годзе прысуджаная яму Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін адзін з найбольш глыбокіх і ўдумлівых у сучаснай беларускай паэзіі лірыкаў. Характэрныя асаблівасьці ягонае лірыкі — шырокая вібрацыя пачуцьцяў і настрояў, іхная беспосярэднясьць, шчырасьць і жыцьцёвая праўда пры поўнай адсутнасьці штучнай позы й павярхоўнай ілюстрацыйнасьці. У залежнасьці ад таго, якую думку ці пачуцьцё хоча паэта выказаць, ягоны верш то спакойна элегійны, паважны, нат суровы, то, у часіны радаснага ўздыму, гучыць усхвалявана й бадзёра, а ў мамэнтах глыбокіх інтымных перажываньняў атулены мяккай пяшчотай і ласкавасьцяй. Усе гэтыя якасьці асабліва добра зазначыліся ў Пысінавым зборніку 1972 году „Да людзей ідучы" ды ў вершах, што зьявіліся пасьля гэтага зборніка.

Аляксей Пысін шмат увагі прысьвячае працы журналістычнай, будучы ад даўжэйшага часу сталым рэдакцыйным працаўніком газэты „Магілёўская праўда". Не зважаючы на гэта, аголенай вершаванай публіцыстыкі, якой трэба было-б чакаць у сувязі із журналістычнай дзейнасьцяй, у ягонай паэзіі няма й заваду. Арганічна неадлучная рыса паэтавай душы — лірычная паэзія анічуць не падуладная абставінам ягонай практычнай дзейнасьці. Вершы ягоныя вельмі рэдка абазначаныя загалоўкамі. Заміж іх найчасьцей фігуруюць тры зоркі, пад якімі йдзе тэкст вершу, найчасьцей мініятурнага разьмеру. У гэтай караціні й лякანічнасьці хаваецца адзін із сакрэтаў мастацкіх удачаў Аляксея Пысіна, бо ў ягоных вершаваных мініятурах абсалютна няма нічога лішняга, непатрэбнага.

Водгукаў на актуальныя праблемы й практычныя патрэбы дня, якія можна было-б падвесьці пад супольны назоўнік „партыйнасьці й народнасьці" літаратуры, што гэтак настырліва рэкамэндуецца сяньня партыяй, у Пысінавых вершах мінімальная колькасьць ,ані ня больш, чымся іх дыктуюць сяньняшнія няўмольныя палітычныя абставіны. А гэта найлепшы паказьнік, што ўсякая прапагандава-палітычная траскатня гэтак ужо абрыдла і аўтарам, і чытачом, што сучасныя беларускія паэты Пысінавага й малодшага пакаленьня, як мага, адгароджваюцца ад яе ў сваіх творах.

Аляксей Пысін ня толькі за пасярэдніцтвам сваёй творчасьці, але й пасярэдня захаваў за сабой магчымасьць творчага ўплыву на ўзгадаваньне маладога й наймалодшага паэтычнага пакаленьня. Ад даўжэйшага часу ён ачольвае Магілеўскі аддзел Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, як ягоны кіраўнік, і наважана выкарыстоўвае гэтае сваё становішча дзеля беспасярэдняга ўзьдзейваньня на маладую беларускую паэтычную зьмену.

Яшчэ доўга перад сваім юбілеем дасягнуўшы поўнае паэтычнае дасьпеласьці, а на сваё 60-цігодзьдзе шчасьліва яе завяршыўшы, Аляксей Пысін на гэтым ня спыняецца. У сваім творчым росьце ён усьцяж ідзе далей. Самыя вяршыні ягонай творчасьці, трэба думаць, яшчэ далёка наперадзе. Аляксей Пысін належыць да тых беларускіх літаратараў-патрыётаў, што, не зважаючы на жахлівы партыйны ціск у мэтах адданае ідэйнае й палітычнае службовасьці, змаглі наўсуперак гэнага ціску выконваць і нацыянальную беларускую службу. У гэтым асаблівая іхная заслуга.

**Ст. Станкевіч**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ**
**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД**
**„БЕЛАРУСА"**

# ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў красавіку 1980 г. былі атрыманыя ад наступных ахвярадаўцаў сумы: Кальпартаж Беларускай Прэсы Аляксандра Лашука (ад Беларусаў Ангельшчыны — П. Пухава, А. Якубава, А. Парта, Беларускага Клюбу ў Манчэстары, Л. Пячонкі — $57.53; М. Кухарчык — $43.44; сп-ня Ванда й Міхась Махначы — $50.00; В. Ромар — $15.00; **усяго разам у красавіку 1980 году — $165.97; разам з папярэднімі й банкавымі працэнтамі $3,997.67.**

Усім Паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

# ПАМЁР ДОКТАР МІКАЛАЙ МІНКЕВІЧ

29 красавіка сёлета ў Рывьеры Біч на Флярыдзе ў ЗША раптоўна памёр доктар мэдыцыны Мікалай Мінкевіч. Нарадзіўся ён 8 красавіка 1909 году ў Лунінцы на беларускім Палесьсі ў сям'і праваслаўнага сьвятара.

Вышэйшую асьвету Доктар Мінкевіч здабываў на Віленскім Унівэрсытэце, а ў 1942 годзе закончыў свае мэдычныя студыі на лятувіскім унівэрсытэце Вітаўта Вялікага ў Коўні, дзе атрымаў ступень доктара мэдыцыны.

Падчас Другой сусьветнай вайны Доктар Мінкевіч працаваў на Беларусі, як раённы лекар, а ў 1944 годзе, калі арганізавалася Беларуская Краёвая Абарона, быў ейным галоўным лекарам.

Ваенныя абставіны на Беларусі змусілі Доктара Мінкевіча із сям'ёй пакінуць Бацькаўшчыну й падзяліць долю эміграната. Праз Чэхаславаччыну, Нямеччыну, Аргентыну ў 1956 годзе (дзякуючы ашурансу праф. Барыса Кіта) Доктар Мінкевіч із сям'ёй перасяліўся ў ЗША. Працаваў ў шпіталях у штатах: Ілінойс, Місуры, займаўся прыватнай практыкай у штаце Огаё, у 1973 годзе скончыў студыі псыхіятрыі й працаваў у псыхіятрычным шпіталі ў Фальс Вью Мэнталь Гэльс Цэнтэр у штаце Огаё.

У 1976 годзе Доктар Мінкевіч выйшаў на пэнсію й пасяліўся із жонкай на Сінгер Айлэнд у Рывьера Біч у цёплай Флярыдзе. Поўны энэргіі й ахвоты да жыцьця, Доктар Мінкевіч хутка знайшоў новую групу прыяцеляў, зь якімі ніколі не скупіўся дзяліцца сваімі мэдычнымі ведамі й ахвотна дапамагаў парадамі й дыягнозамі, калі яны гэтага патрабавалі. Заўсёды вельмі ахвотна адклікаўся на патрэбы прыйманьня ўдзелу ў палітычных дэманстрацыях у Маямі, дзе патрабавалася наш беларускі ўдзел.

Пахаваны на лятувіскай частцы магільніку Рояль Пальм Мэмарыял Гардэнс у Вэст Пальм на Флярыдзе. У глыбокім смутку й жалобе пакінуў жонку Д-ра Галіну, двух сыноў Уладзімера й Юрку з жонкамі, 8 унукаў і цэлы шэраг прыяцеляў ды знаёмых.

Над труной, пакрытай бел-чырвона-белым сьцягам, прачулае слова сказала сп-ня Лёнгіна Брылеўская, падчыркваючы ягоны шлях жыцьця й яго самога, як чалавека, прафэсійнага працаўніка й Беларуса. Доктар Мінкевіч на працягу апошніх некалькіх гадоў (пасьля сьмерці свайго цесьця Радаслава Астроўскага) быў віцэ-прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады.

Вечная Яму Памяць! **Л. Б-я**

**Заміж вянка на магілу сьв. пам. Мікалая Мінкевіча складаем $ 20.00 на Выдавецкі Фонд „Беларуса" — Лёнгіна й Уладзімер Брылеўскія.**

# НАРАДА Ў БЕЛЫМ ДОМЕ

У Белым Доме ў Вашынгтоне адбылася 11-га красавіка сёлета сустрэча Прэзыдэнта Джымі Картэра й ягоных дарадчыкаў, а таксама прадстаўнікоў Дзяржаўнага Дэпартаманту з прадстаўнікамі этнічных групаў Амэрыкі. На нарадзе былі: д-р Зьбігнеў Бжэзінскі, прэзыдэнтаў дараднік да справаў нацыянальнае бясьпекі, д-р Стывэн Айелё, дараднік у справах этнічных групаў, д-р Альфрэд Кан, старшыня Рады Кантролю Цэнаў. Беларускую групу на нарадзе прадстаўляў д-р Вітаўт Кіпель, які займае таксама становішча старшыні Этнічнае Рады штату Нью Джэрзі.

У ўступнай прамове Прэзыдэнт Картэр адзначыў вялікую ролю этнічных арганізацыяў у гісторыі ЗША. Якраз гэтыя арганізацыі, сказаў Прэзыдэнт, найбольш дапамаглі й дапамагаюць новым імігрантам стаць на новай бацькаўшчыне на моцны маральны, а часта й матэрыяльны грунт, чуцца паўнапраўнымі грамадзянамі Амэрыкі. Амэрыканскія нацыянальныя арганізацыі, сказаў Прэзыдэнт, надзвычайна добра перахоўваюць таксама культурную спадчыну сваіх народаў, што сталася вялікім укладам у амэрыканскую культуру.

Д-р З. Бжэзінскі ў сваім выступленьні гаварыў пра неабходнасьць ураду Амэрыкі бараніць усімі магчымымі спосабамі справу нацыянальнае суварэннасьці народаў сьвету ды вельмі станоўка была выказаная перасьцярога, што ў іранскім крызісе цярплівасьць Амэрыкі падыйшла да канца ды што новыя крокі ў разьвязаньні канфлікту непазьбежныя.

Пасьля агульнае часткі ўдзельнікі канфэрэнцыі былі запрошаныя на абед у Белы Дом, пасьля чаго адбыліся груповыя й асабістыя гутаркі з прадстаўнікамі розных міністэрстваў і ўрадавых установаў. Была таксама магчымасьць пагутарыць сам-насам з Прэзыдэнтам Картэрам.

Беларускі прадстаўнік д-р В. Кіпель правёў таксама гутарку зь сябрам урадавае Камісіі да справаў Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе. Камісія рыхтуецца цяпер да ўдзелу ў міжнароднай Мадрыдзкай канфэрэнцыі, на якой будуць разглядацца пытаньні ўжыцьцяўленьня Гэльсінкаўскага пагадненьня. Д-р Кіпель паінфармаваў пра падзеі на Беларусі, упасобку пра перасьлед іншадумцаў ды пра рост іхнае колькасьці.

**Я. Запруднік**

# ПАПРАЎКА

З прычыны карэктарскага недагляду ў нэкралёгу на сьмерць Франука Рашкевіча ў Ле Крэзо ў Францыі, напісаным сп. Браніславам Нагорным, укралася прыкрая памылка, на якую толькі цяпер зьвярнуў нашую ўвагу ейны аўтар. У сувязі з гэтым толькі цяпер папраўляем гэтую памылку й перапрашаем за яе аўтара нэкралёгу: сьв. пам. Франук Рашкевіч памёр 14 лістапада 1979 году й тады-ж быў пахаваны пры ўдзеле а. А. Надсана, а не як пададзена ў газэце.

Апрача гэтага, надрукаваньне нэкралёгу на сьмерць Франука Рашкевіча, напісанага сп. Міхасём Булыгам, усьцяж адкладвалася з прычыны напліву ў газэту больш актуальнага матарыялу. І толькі цяпер маем магчымасьць зьмясьціць гэты нэкралёг, зрабіўшы ў ім неабходныя моўныя й стылістычныя папраўкі:

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ФРАНУК РАШКЕВІЧ

Дня 14 лістапада 1979 году раптоўна памёр наш сябра, прыкладны бацька й дзед. Пакінуў у смутку жонку Маню, сыноў: Янука, Зыгмунта, Юрку, Рышарда й дачок Тэрэсу, Аню й Крысьціну ды пяцёра ўнукаў. Нарадзіўся ён 16 жніўня 1920 г. у вёсцы Сялявічы на Слонімшчыне.

Другая сусьветная вайна закінула яго у Крэзот у Францыі. Цяжкая праца на мэталюргічнай хвабрыцы моцна падарвала ягонае здароўе, але з Божай ласкі дачакаўся пэнсіі й заслужанага адпачынку. Нажаль, абегла нас сумная вестка — Франук памёр.

Быў ён вялікі патрыёт і моцна веруючым чалавекам. Абрад пахаваньня арганізаваў ягоны прыяцель польскі ксёндз Навіцкі. На пахавінах было чатырох сьвятароў, усе сябры Беларусы, прыяцелі й знаёмыя. У пахавінах прыняў удзел адзін зьвяз французкай жандармэрыі, бо трох ягоных сыноў служаць у жандармэрыі, а таксама ягоны швагер Юрка Гасьцееў з Кліўленду ў ЗША. Пад гукі „Магутны Божа" труна, пакрытая бел-чырвона-белым сьцягам, была ўнесеная ў сьвятыню. Абрад пахаваньня закончыўся беларускім гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Сьпі Дарагі Сябра ў гасьцінай французкай зямлі! Няхай Табе сьніцца загоны родчай Беларусі, якую Ты гэтак шчыра любіў!

**Міхась**

# ДАЎНО ПАТРЭБНАЯ КНІГА

Пра зрыхтаваньне й выданьне такое кнігі думалі й гаварылі ўжо даўно Дый не толькі сьвятары БАПЦарквы, але й вернікі. Навет, калі не памыляюся, паклікалі й камісіі, „каб пераклалі й выдалі". І шчырыя намеры былі, і пляны ды яшчэ шмат іншага... А кнігі гэтак і ня было. Аж пакуль ня ўзяўся за яе чалавек, які ведае цану слова й датрымлівае яго. Маю на думцы Высокапачэснага Архіяпіскапа Мікалая.

У сваёй прадмове да „Служэбоўніка", які, выдадзены за сродкі вернікаў БАПЦ, кагадзе выйшаў з друку, Уладыка Мікалай кажа:

„Гэты служэбоўнік, першы ў гісторыі нашага народу, выдадзены друкам. Ня зьбіраемся быць непамыльнымі, таму няхай словы ацэнкі будуць словамі выпраўленьня недахопаў. Напэўна многа чаго не прадбачана ўкладчыкам. Хочацца верыць, што ў недалёкай будучыні знойдуцца людзі й выдадуць другі служэбоўнік, улічваючы ўсе недахопы першага".

Галоўнай часткай кнігі ёсьць перакладзеная ў беларускую мову Сьвятая Літургія Яна Златавуснага й Васіля Вялікага.

„Пры ўкладаньні служэбоўніка браліся пад увагу нашыя характэрныя абставіны, — чытаем далей у прадмове, — каб аблегчыць нашаму сьвятарству, дзяком і ўсім людзям — удзельнікам малітвы. Наш служэбоўнік зьмяшчае больш пашыранае тлумачэньне, чымся можна знайсьці ў нармальна выдаваных служэбоўніках".

Ад гэтага часу сьвятары нашыя на эміграцыі й звычайныя вернікі будуць мець прынамсі нейкі арыенцір што да галоўнае службы царкоўнае, гэткім чынам змогуць зьбеларушчыць, — ведама-ж, не адразу, а паступова, — гэтую службу.

Апрача Сьвятой Літургіі, кніга зьмяшчае й водпусты на кожны дзень тыдня дзённага кругу, пракімены, алілуяры й прычасьнікі на літургіі.

Ведама-ж, як Архіяпіскап Мікалай згадвае, пра тую „непамыльнасьць", варта памятаць пра розныя небясьпекі, што падпільноўваюць перакладчыкаў. Усё тое, што складана на царкоўны рытуал — малітвы, песьні — складалася й крышталізавалася на працягу стагодзьдзяў. Перанесьці абрад і тэксты з аднае мовы ў другую, справа надта скамплікаваная, а ў нашых абставінах на эміграцыі амаль немагчыма. І тое, што гэта адно пачатак, першы крок, за якім, хочацца верыць, пойдзецца далей, трэба трымаць на ўвазе. Пэўне-ж, у кнізе ёсьць і агрэхі, і асот, і сьвірэпка, якую трэба будзе знайсьці, выпалоць, вычысьціць.

Якія-ж праблемы сустракае перакладчык? Можа прыйдзе гэтта на помач маленькая ілюстрацыя. Возьмем ведамы Вялікодны канон. Паславянску гучыць ён наступна:

„Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ и сущим во гробех живот даровав".

Пераклад, зусім даслоўны, у беларускую мову гучыць так:

„Хрыстос уваскрос зь мёртвых, зьнішчыў смерцяю сьмерць, і тым, хто знаходзіцца ў магілах, жыцьцё падаў".

Людзі, што пасталіся-б прасьпяваць гэты канон, адразу бачаць, што гэта немагчыма. Што-ж рабіць, як вярнуць рытм, каб захаваць і тэкст і ведамую мэлёдыю?

Спрабуйце наступны:

„Хрыстос із мёртвых уваскрос, сьмерцяю сьмерць пакананаў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў".

Паспрабуйце цяпер праспяваць. Добра? Тэкст захаваны поўнасьцяй, перастаноўкай пару словаў здабылася рытмовая гармонія, дапасаваная да ведамай мэлёдыі.

Бязумоўна, як кажуць, першы блін комам. Але здаецца, сам наш Архіяпіскап Мікалай, прадбачыўшы гэта, забягае наперад і просіць (значыцца, спадзяецца), што прыйдуць папраўкі, канструктыўныя спасьцярогі, якія некалі возьмецца пад увагу пры выданьні наступнага, праўленага служэбоўніка.

Я ўважаю патрэбным выказаць некаторыя думкі свае хаця-б з тае прычыны, што давялося пасядзець пры наборы кнігі колькі месяцаў, што трэба было, хаця-нехаця, разважаць над тым, а як-бы лепш, раіць некаму й раіцца зь некім. Значыцца, і з майго боку быў нейкі, апрача тэхнічнага, уклад, які, спадзяюся, прынёс карысьць.

Кніга набраная трыма шрыфтамі, з добрымі водступамі й так значыца, каб было лёгка для зроку ў часе службы, каб бязь цяжкасьцяў запаміналіся й тэкст і месца яго. І хочацца спадзявацца, што дзякуючы ёй, нашыя сьвятары паставяць першыя крокі, каб зблізіць слова Божае да душы беларускай.

Кніга выдадзеная на добрай паперы, каб трывалкая была. Мае 168 бачынаў. Нажаль, з прычыны сьціплых сродкаў, яна атрымала мадэрную, значыцца трывалкую, але ня цьвёрдую вокладку. Цана яе будзе ўсяго 15 амэрыканскіх даляраў.

Выпісваць можна, зьвяртаючыся або беспасярэдня да Ўладыкі Мікалая на наступны адрас: Rt. Rev. Archbishop Mikalaj 524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont. M6H 3W7, або ў „Пагоню": PAHONIA Publishers 524 St. Clarens Ave., Toronto. Ont. M6H 3W7.

**К. Акула**

# „ЛІСТ РАСЕЙСКАМУ ПРЫЯЦЕЛЮ"

**(Заканчэньне з 4-ай бачыны)**

мог (з прычыны „сьпячкі" Беларусаў) зьйсьці за звычайную заблуду. Сяньня-ж пазанацыянальны (пазамоўны) пагляд на гэты народ, пасьля паданых ім гэтулькіх а гэтулькіх дарагакаштоўных довадаў собскае гістарычнае паўнавартаснасьці, цяжка не назваць кашчунствам. І тое, што вызнавалася за норму ў самадзяржаўнай Расеі — турме народаў, у „Союзе нерушимом республик свободных, сплоченных навеки Великою Русью" можна й павінна называць запраўдным імём: шарлатанствам. Нам яшчэ давядзецца крануцца неладоў паміж веліччай і вялікадушшам, што аніяк ня спрыяюць беларускаму адраджэньню, якое — як ні парадаксальна — цяжка ўважаць за закончанае хоць-бы з прычыны ня поўнасьцяй зьнятых абмежаваньняў у разьвіцьці беларускае мовы.

Але перш як перайсьці да пытаньня „лінгвістычных" недамаганьняў беларускага грамадзтва, варта было-б нагадаць на галоўнае: на йснаваньне й разьвіцьцё беларускага нацыянальнага арганізму. Арганізму жывога, які расьце, не аднойчы давёў сваю жыцьцястойкасьць ды свой імунітэт перад самымі няспрыяльнымі „гістарычнымі" інфэкцыямі.

***

Жанчына ў часе родаў — калі даць веры Сямёнаву-Штырліцу (Сямёнаў — аўтар, а Штырліц — герой папулярнага савецкага шпіёнскага тэлевізійнага фільму) — крычыць „мама" ў мове й навет адценьні, засвоеным з матчыным малаком. Гэтак, мабыць, і народы — радасьць і боль, тугу й надзею, усё ў сабе існае выражаюць сваім прыродным словам.

Гісторыя ня гэтак даўна мела ласку яшчэ раз — і цяпер з асаблівай пільнасьцяй і суворасьцяй — угледзецца ў твар Беларуса, выпрабаваць на трываласьць дух беларускі: яго расстрэльвалі, вешалі, спальвалі. Вытрываў ён, пранёсшы праз магільныя равы й дым папялішчаў слова свае роднае. **Учуйцеся:** (тут даюцца больш як на дзьвюх балонках выпіскі із сьветчаньняў людзей, што на свае вочы бачылі ці перажылі-выжылі паленьне беларускіх вёсак і масавы тэрор гітлерцаў; сьветчаньні гэтыя падаюцца пабеларуску з кнігі Алеся Адамовіча, Янкі Брыля й Уладзімера Калесьніка „Я з вогненай вёскі", выданай у Менску ў 1974 годзе, б.б. 31-42, 47, 102, 104, 107). Падаўшы гэтыя сьветчаньні, сказаныя чысьцюсенькай беларускай мовай адно савецкім правапісам, аўтар „Ліста" піша:

Гэткая яна, мова Беларусаў, якая паведвае сяньня чалавецтву пра тое — тым, магчыма, зьяўляючы ключ да нацыянальнае ідэі народу — якім звышскотам робіцца ўсякі, што надумаўся стацца звышчалавекам. Дыялекту, навет скропленаму водамі магутнае ракі, гэткая нагрузка, згадзецеся, наўдачу ці да ўздужаньня.

Мова, загартаваная пад катаваньнямі барбараў, „чынгісханаў з тэлеграфамі" (Алесь Адамовіч), выжыла няўжо затым, каб зьнікнуць у хітрасплётах „асьвечанага" Молаха? Ня думаю.

Навукова-тэхнічны прагрэс нясе ў сабе не адну суцэльную ўніфікацыю. Дыфэрэнцыяцыю, разнастайнасьць — таксама. Можна мяркаваць хоць-бы паводля дзяціны веку — тэлявізійнае скрынкі, што поўніць тэляэтэр „ад Масквы да самых да ускраін" уніфікаванай праграмаю „Час", „17" ды іншымі тэляймгненьнямі. На тых-жа „ўскраінах" з блакітнага экрану гучаць не адны маршавыя песьні наводля „Сягоньня мы не на парадзе, мы к камунізму на шляху"... Там чуецца й нешта глыбака празрыстае, здольнае ўскалыхнуць шчарсьцьвелую ад бясконцых „парадкаў" душу: „Ой, рэчанька, рэчанька, чаму-ж ты ня поўная..." Ведама, прапорцыя гучэньняў першае й другое якасьці далёкія ад іхнае адпаведнасьці духу й целу жывога чалавека. Першыя заяўляюць пра сябе галасьней, станаўчэй; яны — тымчасам у пашане, гэтыя якасьці — „каралі" сцэны, экрану, этэру. Гэта засмучае. Аднак ня менш цешыць тое, што ўжо ня толькі яны, гучэньні маршава-сумлеўнае якасьці, валодаюць розумамі й настроем людзей у вазёрна-ракітавым краі. Тэхнічная рэвалюцыя — ня толькі сьмерць і гніцьцё. Яна таксама — нараджэньне й прабуджэньне. У народзе, як і ў васобе, яна ўзмацняе пазыцыі веды, а зь ёю — годнасьці, гордасьці, дух творчасьці, самавыражэньня й самасьцьверджаньня. Словам, у ёй — свая жыватворная, крыніца й свае балота, свой росквіт і свае завяньне, хіба што завяньне — толькі адзін з выяваў жыцьця, але не самое жыцьцё, бясконцае ў разьвіцьці. Ад нас з Вамі залежыць, чаму аддаць перавагу.

Знайшліся-ж трох беларускіх інтэлігентаў (ёсьць, наўсуперак дапушчанаму на пачатку агульнаму цьверджаньню, інтэлігенцыя і ў Беларусі; праўда, у прапорцыях, што сустудае перад колькасьцяй кадраў з вышэйшай асьветаю, але здольная паддаць народу нацыянальна-інтэлектуальны прысьпех, стрымваць які ня ў стане самая шматлічная рацьчыноўнікаў і „генэралаў"): яны ўзброіліся гэтай самай „НТР", аб'езьдзілі й абыйшлі беларускія сёлы й мястэчкі, запісаўшы на магнітафонную йстужку ўспаміны ацалелых сьмяротнікаў Хатыняў ды зьявіўшы сучасьнікам і нашчадкам унікальны гістарычны й літаратурны помнік.

Паўзірайцеся-ж у твары жывых з „вогненых вёсак", учуйцеся ў іхную сумную гаворку, ад якое павявае ня толькі сумам. Шмат чаго паведамяць Вам гэтыя людзі, у тым ліку й пра бястэрміновы пашпарт свае мовы...

**(Працяг будзе)**

# БАНКЕТ РЭСПУБЛІКАНСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ РАДАЎ

У нядзелю 27 красавіка сёлета ў горадзе Студыё Сіці ў Імпэрскай Бальнай Залі Спартсмэнскага Рэстарану адбыўся вялікі банкет каліфарнійскай штатавай і лёсанджэлеўскай акруговай рэспубліканскіх нацыянальных Радаў, прысьвечаны выбару новага кіраўніцтва й спэцыяльнаму прывітаньню жанчынам пад назовам „Банкет Спадчыннага Дня".

На гэты банкет было запрошана шмат выдатных рэспубліканскіх кангрэсмэнаў і іншых асобаў. Да пачатку ўрачыстай праграмы беларускі прадстаўнік змог спаткацца і правесьці кароткія гутаркі з б. сэнатарам Майкалам Антонавічам харвацкага паходжаньня, з б. мэрам Лёс Анджэлесу Сэмам Ёрты, з палкоўнікам Юльянам Немчыкам, Паляком і інш.

Сабралася колькі сот удзельнікаў. Банкетам кіраваў Украінец М. Мэдвід. Даўжэйшую прамову сказаў кангрэсмэн Робэрт Дорнан на тэму сучасных палітычных судачыненьняў на фоне канфлікту зь Іранам зь нядаўнай няўдачнай спробай асвабадзіць амэрыканскіх закладнікаў у Тэгеране. Ён, як і шмат іншых, заклікаў да перамогі рэспубліканцаў на прэзыдэнцкіх выбарах. Сярод дзесяткаў ганаровых гасьцей была артыстка Рута Лі й Робэрта Вайнтрауб, дырэктарка лёсанджэлеўскага Аддзелу Адукацыі, якая зьвярнула ўвагу на праблему ўдзелу жанчынаў ў школьнай адміністрацыі й на пытаньне перавозу вучняў для расава-этнічнай мешаніны.

Прадстаўнікі паасобных этнічных групаў, у тым ліку й беларускі, былі асобна выкліканы кіраўніком праграмы й прадстаўленыя ўдзельнікам банкету. У канцы праграмы быў зроблены заклік да ўдзелу ў выбарнай кампаніі. Банкет даў добрую магчымасьць большага зблізьненьня й азнаямленьня паміж паасобнымі нацыянальнымі групамі.

**Н.**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

# ТЭАТР ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў МЕНСКУ

У сакавіку сёлета споўнілася 25 гадоў, як Беларускаму Дзяржаўнаму Тэатру імя Янкі Купалы была прызнаная годнасьць акадэмічнага тэатру Савецкага Саюзу.

У практыцы савецкіх тэатраў бывае, што тэатр доўга змагаецца за прызнаньне яму гэтае годнасьці, крышталізуе свой рэпэртуар, заваёўвае глядача, вядзе вялікую шэфскую працу, уздымае партыйную, камсамольскую й прафсаюзную арганізацыі да ўзорнага ўзроўню, адным словам, робіць усё магчымае й немагчымае, каб яму прызналі годнасьць акадэмічнага. І вось, нарэшце, тэатр дэманструе ў Маскве свае паказы, і Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР прызнае яму годнасьць акадэмічнага, збольшвае зарплату акторам і абслуговаму пэрсаналу, і тэатр супакойваецца, бо мэта дасягнутая, і жыцьцё ў тэатры заціхае, настаюць звычайныя працоўныя будні — абы ня горш, як суседні тэатр.

Ці не адбылося падобнага і з тэатрам імя Янкі Купалы ў Менску? Наперад скажу, што адбылося, і ў самым горшым варыянце, які толькі можа быць.

Паглядзеўшы цяпер адзін, другі паказ у тэатры, можна адразу-ж спасьцерагчы іхныя агрэхі, як па рэжысэрскай і акторскай лініі, гэтак і ў убосьцьве матарыялу, за які бярэцца тэатр. Даволі шмат пакідаецца пустога месца глядачу, каб ён дадумаў, дамаляваў заміж актораў і за кошт сцэнічных эфэктаў. Кажуць, гэтак мы зварачаемся да асацыятыўнага мышленьня глядача. Бывае, што сцэна аглушае нас шумавымі эфэктамі, фарсаваньнем сцэнічнае мовы, мітусьнёй і стракатасьцяй. З гэтага ўсяго відаць твар тэатру, ягоную рутыннасьць, якая напластоўвалася дзесяткамі гадоў, і каб паставіць тэатр на правільны шлях, патрэбная цэлая рэвалюцыя, паводля тае, што правёў і вядзе Яфрэмаў у Маскоўскім Мастацкім Тэатры.

Але ў тэатры Янкі Купалы праблема нат і не ў шматгадовых напластаваньнях, а ў сцэнічнай мове, гэта праблема беларускае мовы. У тэатры 70% актораў — наагул ня здольныя гаварыць пабеларуску й разумець беларускую мову, 20% — у працэсе рэпэтыцыяў могуць яшчэ навучыцца сваіх роляў, і ўсяго 10% бадай, усе зь іх старэйшыя акторы — здольныя і разумець і гаварыць пабеларуску, але не дастаюць роляў у новых паказах.

І гэтак перад глядачом зьяўляецца гэная 70-працэнтавая частка. Самы люты вораг беларускае мовы не патрапіў-бы сумысьля гэтак перакручваць словы, як гэта могуць рабіць цяпер у тэатры імя Янкі Купалы. І бывае звычайным, нармальным, што калі на сцэне актор забываецца беларускі тэкст, ён пераходзіць на расейскую мову, а ў залі кажуць: які ён апэратыўны, які ён таленавіты актор. А Няфёд, Сабалеўскі і шмат яшчэ волатаў, дактароў мастацтвазнаўства пішуць у газэце „Літаратура й Мастацтва", у „Чырвонай Зьмене", у „Вячэрнім Мінску", пішуць: што сталася з тэатрам, куды пайсьці паглядзець штонебудзь вартае? Яны дыскутуюць, ведаючы добра, што прычына нат ня ў тэатры самым, а ў Міністэрсьцьве Культуры БССР, на чале якога стаіць міністар Міхневіч, які ў ніякай мове ня можа выказаць сваіх думак пра мастацтва, але аднойчы сказаў: „Калі ў мяне ёсьць вольная часіна, я лепш пайду ў рускі тэатр, ён і бліжэй ад Міністэрства, і ў ім усё даволі зразумела, бо гавораць парускy". І яму ўсе пачалі пляскаць.

„Рыба гніе з галавы", як кажуць. У Міністэрсьцьве Культуры БССР усім у найвышэйшай ступені напляваць на тое, што Сідараў у Купалаўскім тэатры перайшоў на расейскую мову, што артыстка з таго-ж тэатру ня вымаўляе дзесяцёх літараў зь беларускага альфабэту. Неахайнасьць, бяспрынцыповасьць Міністэрства, якім кіруе Масква, каб зрабіць Беларусь прыдаткам Вялікае Русі, дык якая там яшчэ беларуская мова!

Быў час, калі ў гэтым тэатры працавалі гэткія майстры сцэны, як Платонаў, Глебаў, Маўчанаў, Ржэцкая, Уладамірскі ды шмат якія яшчэ цудоўныя акторы, якія ня былі народнымі, але ў тэатры, у жыцьці тэатру адыгралі немалаважную ролю. У пяцьдзесятых гадох тэатр быў адзіным тэатральным цэнтрам, вакол якога гуртаваліся ўсе іншыя тэатральныя калектывы. Найбольшы ўзьлёт тады перажыла беларуская драматургія, Купала, Крапіва, малады Макаёнак.

У тэатры й цяпер ходзіць пагалоска, што Платонаў мог граць спэктакль на аснове газэтнае перадавіцы, і як яшчэ граць! У тэатры тады была свая адмысловая тэатральная публіка, тая частка менскае інтэлігенцыі, якую не пасьпелі зьнішчыць у 37-м годзе, людзі, што не загінулі на франтох Другое сусьветнае вайны, якія ўсяго баяліся, не баяліся толькі пляскаць і сьмяяцца на паказах Купалаўцаў. Тэатр даваў жыцьцё глядачом, можна было пачуць жывое беларускае слова ад актораў-Беларусаў, якія ведалі сваю гісторыю ды хацелі, каб роднага слова не забыліся людзі, пад якім уплывам яны-б ні знаходзіліся.

І акторы несьлі із сцэны прыгожа, з густам, з патрыятызмам слова, якое ўрад разам з народам-будаўніком камунізму губляў, таптаў зь ліхасьцяй і энтузіязмам. Тыя акторы выявіліся ня вечнымі, на зьмену ім прыйшлі іншыя. Напрыканцы 50-ых гадоў зьнікла беларуская мова зь вітрынаў магазынаў, з афішаў кіно, усё перайшло на расейскі манер, засталіся толькі афішы тэатру імя Янкі Купалы. Беларускае слова сталася доляю людзей зь вёскі. А самае галоўнае, што тэатр скараціў свой нацыянальны рэпэртуар, толькі „Паўлінка" вытрымала да сяньняшняга дня ўсе церці, сумляваньні з боку „носьбітаў новае культуры".

У рэпэртуары зьявіліся прозьвішчы Астроўскага, Ляонава, Брэхта, Скрыба, Дзяленьдзіка, Арбузава, Валодзіна. Я ня супраць гэтых аўтараў на афішы тэатру, а супраць таго перакладу іхных твораў у беларускую мову, у якім ідуць яны ў тэатры. Перакладчыкі як-быццам сумысьля хацелі паказаць, што беларуская мова ня здольная перадаваць усе тонкасьці, гумар, хварбы, якія ёсьць у расейскай мове, і я яшчэ супраць актораў, якія мымраць словы напалавіну з расейскім акцэнтам, супраць гэтых скарасьпелых талентаў з тэатральнага інстытуту, на якіх так занепадае тэатр апошнім дзесяцігодзьдзем. У тэатры часам кажуць: ня ведаеш мовы — навучым. Нельга навучыць мовы за два-тры месяцы, у часе рэпэтыцыяў, расейскага чалавека. Наагул немагчыма яму перадаць мяккасьць, музычнасьць, мэлёдыку беларускае мовы. Гэты факт бясспрэчны.

На працягу апошніх 25-ёх год якіх толькі рэжысэраў ні запрашалі з усіх рэспублікаў, апрача Беларусаў, якім не давяралі датыкацца да клясыкі. Рэжысэры ведалі, як ставіць п'есу, як будаваць мізансцэны, як расставіць актораў, але што акторы гаварылі, рэжысэрам было не зразумела. Ставіліся ня там, дзе трэба, акцэнты, і рэжысура сама па сабе без зацікаўленасьці ў пераўвасабленьні й раскрыцьці глыбінных падтэкстаў, без разуменьня мовы, не дасягала мэты. Былі сярэднія, проста дрэнныя ды больш-менш прыймальныя паказы, але ня было ўжо дзіва, ня было таго, чым валодалі Платонаў, Глебаў, карэньні якіх былі зьвязаньня з канкрэтнай зямлёй, зьяўлялася зямля-глеба маскоўскай, ленінградзкай, саратаўскай старонак.

На пачатку 70-х гадоў паўстала рэзкая канечная патрэба ўзьняць тэатр, які з кажным днём чэзнуў і занікаў.

І знайшлі маладога рэжысэра з Магілева Валерыя Раеўскага, які й дасюль узначальвае калектыў. Нельга сказаць, што Раеўскі ўзьняў тэатр, заслуга яго ў тым, што яму ўдаецца часам прабіць той ці іншы матарыял. Колькі трэ было страціць энэргіі, здароўя на паказ Васіля Быкава, аўтара, што добра ведамы і ў Саюзе і замежамі.

Раеўскі ведае, што канечна трэба ўзгадоўваць беларускіх актораў на драматургіі Беларусі, на ейных вершах, на ейнай прозе, тады, можа праз гады, калектыў будзе заслугоўваць на ўвагу і глядача і крытыкі.

Не хацелася-б, каб гэтае апошняе апірышча беларускае культуры загінула ,як загінулі маманты.

**Алесь Васілеўскі**

**Ад Рэдакцыі:** Аўтар гэтага артыкулу, былы актор тэатру імя Янкі Купалы, выехаў летась з Савецкага Саюзу на Захад.

**НЕСПАДЗЯВАНА МЫ СТРАЦІЛІ**



**СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ**

**ЛЕАНІДА ГАЛЯКА**

адданага працаўніка на роднай ніве. Нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 году ў Вільні, памёр 3 красавіка 1980 году ў Стамфардзе ў ЗША.

Шчырае спачуваньне выказвае Жонцы, Дачцы, Родным і Знаёмым

Сям'я М. Панькоўвых

У дальняй дарозе — прысталі ногі,<br>
У чужых вятрох — змарылася сэрца.

*ЗАМІЖ ФЭЛЬЕТОНУ*

# "ЗАБЫЛІСЯ АСАБЛІВАСЬЦІ..."

Ад таго ведамага кастрычніка, які пасьля нарадзіў бэсэсэрыю й розныя іншыя „дабротныя" маскоўска-бальшавіцкія трасцы, камуністычныя жрацы насядаюць на наш запрыгонены народ, каб прыносіў ім паклоны й ахвяры... Асабліва-ж, калі якому камуністычна-маскоўскаму ідалу ёсьць круглая нагода пакланіцца, вернасьць задэманстраваць, хвалясьпевы выказаць. Гэтак, як сёлета на 110-ыя ўгодкі ад нараджэньня Леніна.

Беларускі народ, як даўно да таго кастрычніка было ведама, і гасьцінны й шчодры на хвалу й песьні. Гэта, калі ён із свае волі. У бэсэсэраўшчыне, ведама, дзе няма ніякае волі, апроч партыйнае, перад такімі нагодамі ідалапаклоньніцтва зганяюць людзей у брахалкі (г. зн. „палацы культуры"), дзе накручваюць і тлумачаць, як і што „нада"...

Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 14 сакавіка сёлета даволі шырака апісвае (нейкі М. Казенка), як адтанцавалі ў чэсьць таго галоўнага ідала розныя рэспубліканскія танцавальныя й фальклёрныя калектывы. „Толькі ў абласных аглядах прыняло ўдзел 96 мастацкіх калектываў і каля 1160 чалавек", хваліцца Казенка. Адным словам, вось дзе сіла!

І пасьля названьня лепшых выканальнікаў, значыцца й перадусім калектываў, карэспандэнт „ЛіМ"-у называе й цені: „Кіраўнікі... ня выкарыстоўваюць у сваіх новых харэаграфічных пастаноўках мясцовы матарыял... Нараканьні выклікае й рэпэртуар шэрагу калектываў — у першую чаргу недастатковая ўвага да беларускага народнага танцу. Сельскія харэографы, як правіла, будуюць свой рэпэртуар з танцаў народаў СССР і сацыялістычных краін. Патрэбныя, вядома, і такія танцы, але тут трэба ведаць і меру".

Вось як! Меру трэба ведаць! А хто-ж яе ў эсэсэрыі ведае, пачынаючы ад таго шанаванага ідала, які яе ня ведаў, праз цяперашнюю „родную партыю" й аж да самых „агітбрыгадных нізоў", насычаных рознымі падхалімнымі абрыдзелымі частушкамі, якія бясконца даводзіцца малоць, каб людзі „на працоўнай вахце" стаялі й Амэрыку пераганялі? „Хацелася-б, каб нашы мастацкія калектывы адлюстроўвалі асаблівасьці таго краю, у якім яны жывуць, ня толькі ў харэаграфіі, але і ў касьцюме".

Добра й сьмела сказана. Сам-жа гэны ідал некалі казаў: „мастацтва належыць народу. Яно павінна пранікаць"... ну й гэтак далей. А калі, наслухаўшыся партыйных палітрукоў, ня ведаеш, ці ты ўжо савецкі народ і дасягнуў камунізм, ці беларускі яшчэ, які ня перастане з гэтай нечысьцяй змагацца, дык як тады быць? Дзіва, што людзі не патрапяць „адлюстроўваць асаблівасьцяў таго краю, у якім яны жывуць".

Ну й што тады на гэных мастацкіх аглядах атрымліваецца?

„На абласным аглядзе Віцебскай вобласьці мы прагледзілі 28 танцаў... Але толькі адзін зь іх („Рускі танец" у выкананьні танцавальнага калектыву Іказьненскага СДК Браслаўскага, кіраўнік Тацьцяна Чарнова) заслугоўвае ўвагі".

Маладзец, Тацьцяна! Забыліся людзі „асаблівасьці таго краю, у якім яны жывуць", дык „наплевать". Давай „рускага"! Усё-ж нейкую бляшку-ордэн і ад жрацоў пахвалу заробіш.

Але самая катастрофа, нам здаецца, ня ў тым, што людзі забыліся „асаблівасьці краю, дзе жывуць". У інтэрнацыянальным калектыве, дзе нехта тамака па генэральнай лініі вядзе ўсіх таптуноў да „сьветлае будучыні сацыялізму", гэта яшчэ не бяда. Горш, што вось людзі цяпер ужо забываюцца, як і дзе й якім чынам да таго сьветлага рухацца. Бо, ведама-ж, бяз арміі наперад ня рушыш... Ну й што-ж пра армію?

Слухайце: „Не атрымала ўвасабленьня ў многіх танцах і гісторыка-рэвалюцыйная тэма. Скажам, харэаграфічная кампазыцыя „Армія, народжаная рэвалюцыяй" у выкананьні... паўтор даўно ведамай „Тачанкі" але ў менш цікавым мастацкім выпрашэньні".

Адным словам, мала што падкачалі зь ведамай „тачанкай", але далёка-далёка ад таго гону да сьветлае будучыні адсталі. Вунь на адным з франтоў да сьветлага заўтра, у Афганістане розных контраў „армія народжаная рэвалюцыяй" газам душыць. Вось і паказаць-бы на сцэне мадэрны газамёт і затрутых амэрыканскіх ці пакістанскіх, ці эгіпскіх, ці сіяніcцкіх, ці бебурнацкіх контраў...

Вынаходлівасьць, прагрэс, далёказорнасьць патрэбныя. У веку кібэрнэтыкі пара з тачанкамі скончыць... Яны былі некалі прыдатныя, каб сваіх кулакоў рабаваць. Але ня ў горах Афганістану, ці ў Джунглях Анголы ды Этыёпіі...

Дык самая галоўная бяда быццам і ня ў тым, што людзі „забыліся асаблівасьці таго краю, у якім яны жывуць"... А для нас, Беларусаў, якраз наадварот: у гэтым галоўная бяда!

**К. Акула**

# СХОД ВЭТЭРАНАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ

Агульны справаздачна-перавыбарны сход Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі адбыўся 30 сакавіка сёлета ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парку. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя д-р В. Кіпель за старшыню й інж. Ю. Станкевіч — за сакратара.

Каманьдзер Аддзелу капітан Сяргей Гутырчык паінфармаваў сход пра дзейнасьць вэтэранаў на працягу апошніх гадоў: вэтэранская арганізацыя атрымала сёлета новы чартар ды зьмяніла свой назоў на наступны: „Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы". Новы чартар дазваляе Аддзелу Нью Джэрзі пашыраць абсяг сваёй дзейнасьці на ўсё ўсходняе ўзьбярэжжа ЗША. Што датычыцца да вонкавых сувязяў, дык Аддзел стаўся сябрам усеамэрыканскае арганізацыі National Security Council і належыць да мясцовае арганізацыі Veterans'Alliance.

Сябры Аддзелу рэпрэзэнтуюць Беларусаў у амэрыканскім асяродзьдзі падчас беларускіх нацыянальных і вэтэранскіх сьвятаў. Пры гэтай нагодзе каманьдзер Аддзелу зложыў падзяку сп. М. Войтанку за годнае прадстаўніцтва беларускіх вэтэранаў у Губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Бэрна ў дзень 25 сакавіка 1980 г.

Унутры беларускае грамады найбольшая праца была праведзеная ў сувязі з пабудовай Памятніка Беларускім Гэроям на магільніку БАПЦ у Іст Брансьвіку. Памятнік яшчэ ня зусім закончаны.

Д-р В. Кіпель падзяліўся ўражаньнямі зь ягонага нядаўнага побыту ў Кліўленьдзе ды іншых беларускіх асяродзьдзях, дзе ён прыймаў удзел у вэтэранскіх сходах ды наладзіў шэраг інтэрвю зь беларускімі вэтэранамі розных войнаў. Ён падчыркнуў, што арганізацыя вэтэранаў прыцягвае ў свае рады былых вайскавікоў, што цяпер не належаць да ніякіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў.

У выніку перавыбараў у каманданьне Аддзелу Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў былі выбраныя: С. Гутырчык за каманьдзера, М. Войтанка за ягонага заступніка (ён-жа вядзе беларускае справаводзтва), В. Лосік за ад'ютанта (вядзе вайсковую карэспандэнцыю) і Я. Азарка за скарбніка. Дэлегатамі ад Аддзелу ў 88 пост Вэтэранс Аляэнс былі абраныя: М. Войтанка і В. Дубяга, заступнікамі В. Лосік і П. Кажура. У новую Кантрольную Камісію ўвайшлі: Ю. Станкевіч, В. Машанскі й В. Сьлюка.

**Ю. Станкевіч**

# У ІНСТЫТУЦЕ ЛІТАРАТУРЫ ЙМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АКАДЭМІІ НАВУКАЎ БССР

У газэце „Літаратура і Мастацтва" за 28 сакавіка сёлета загадчык сэктару выданьняў і тэксталёгіі Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навукаў БССР доктар філялягічных навукаў Міхась Мушынскі інфармуе, што выйшаў з друку першы том тыражом 52 тысячы экзэмпляраў (дарэчы, гэткім вялікім тыражом яшчэ ня выдаваўся ніводзін твор беларускай мастацкай літаратуры ані збор твораў) 10-томнага Збору твораў Івана Мележа. З гэтае нагоды М. Мушынскі інфармуе далей: „... апрача 10-томнага Збору твораў І. Мележа, сяньня ў Інстытуце рыхтуюцца зборы твораў М. Лынькова ў 8-і тамох, З. Бядулі ў 5-і тамох, распачынаецца праца над зборамі твораў М. Гарэцкага ў 4-х тамох, П. Пестрака ў 4-х тамох. У плянах Інстытуту — падрыхтоўка Збору твораў А. Куляшова й многія іншыя выданьні".

Нас тут асабліва цікавіць праца Інстытуту над Зборам твораў у 4-х тамох Максіма Гарэцкага. Як ведама, у выдавецтве „Мастацкая Літаратура" выйшлі ў 1973 годзе два тамы „Выбраных твораў" Максіма Гарэцкага, у якія з цэнзурных прычынаў ня трапіла выдатная аповесьць Максіма Гарэцкага „Дзьве душы" й некаторыя ягоныя апавяданьні. У сувязі з гэтым у выданьні газэты „Беларус" у Нью Ёрку ў 1975 годзе, у дадатак да 2-ух тамоў менскага выданьня, быў выдадзены том трэйці „Выбраных твораў" Максіма Гарэцкага, у якім былі надрукаваныя апушчаныя ў менскім выданьні апавяданьні й аповесьць „Дзьве душы". Дык цікава, ці ў заплянаваным 4-хтомным выданьні „Збору твораў", якое рыхтуе Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы, будуць зьмешчаныя апушчаныя раней з цэнзурных прычынаў апавяданьні й аповесьць „Дзьве душы".

Цікава таксама, ці зьявіцца ў гэтым выданьні незакончаная аўтабіяграфічная аповесьць Максіма Гарэцкага „Камароўская хроніка", якая дасюль наагул ня бачыла друку.

**Ст. Ст.**

**Пра польска-беларускія дачыненьні ды стан каталіцтва** на Беларусі вялікі артыкул П. Ліды зьмешчаны ў польскім парыскім месячніку „Культура" (студзень-люты 1980 г., бб. 35-62). Артыкул напісаны ў Вене ў ліпені 1979 году пад загалоўкам „Палякі, Лятувісы, Беларусы".

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у красавіку 1980) наступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**І. ЗША:**

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Рагуля | $ 100.00 |
| 2. В. Пунтус | 40.00 |
| 3. М. Чатырка | 20.00 |
| 4. Сп-ня Л. і Ул. Брылеўскія | 20.00 |
| 5. Д. Ясько | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 190.00** |

**ІІ. КАНАДА:**

1. В. Ромар ............ **$ 10.00**

**ІІІ. АНГЕЛЬШЧЫНА:**

**А. 1. Кальпартаж Беларускай Прэсы Аляксандра Лашука:** ахвяры на Выдавецкі Фонд газэты „Беларус" ад: Б. Сыльван — 2,30 анг. фунтаў, П. Пухаў — 1,70 анг. фунтаў, Я. Якубаў — 1,20 анг. фунтаў, А. Пэрта — 1,75 анг. фунтаў, Я. Мазур — 1,50 анг. ф., Ю. Весялкоў — 3,50 анг. ф., Я. — 5,00 анг. ф., А. Лашук — 5,00 анг. ф. Разам — 21,95 анг. фунтаў, што ў пераводзе на валюту ЗША дало: ............ **$ 48.29**

**2. Кальпартаж Беларускай Прэсы Аляксандра Лашука:** падпісная плата на газэту „Беларус" 90,00 анг. фунтаў, што ў пераводзе на валюту ЗША дало $198.00. Усяго разам праз Кальпартаж Беларускай Прэсы Аляксандра Лашука атрымана: ............ **$ 246.29**

**Б. Янка Калбаса** (незалежна ад Кальпартажу Беларускай Прэсы Аляксандра Лашука) **$ 8.00 анг. ф.**

**Усяго разам у красавіку 1980 г. $ 446.29 і 8 ангельскіх фунтаў.**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**